# КРЫВІНКА

ТРАВЕНЬ
№ 8 (198)
2017 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




РЫНАК ВАКАНСІЙ

## КУДЫ ПАЙСЦІ ПРАЦАВАЦЬ?

**У параўнані з пачаткам года на канец траўня ў базе дадзеных Дзяржаўнай службы занятасці па Бешанковіцкаму раёну маецца на 9 вакансій менш – толькі 43.**

Па-ранейшаму шмат вакансій прапануюць сельгаспрадпрыемствы. Так "Бешанковіцкі аграсервіс" за паўгода так і не знайшоў галоўнага ветурача і галоўнага заатэхніка (вышэйшая адукацыя) з заробкам 350 рублёў. Галоўнага эканаміста з заробкам 500 рублёў знайшлі. Радавому заатэхніку з сярэдней спецыяльнай адукацыяй прапануюць ужо не 320 рублёў, як раней, а толькі 280. Электрыку не 270, а толькі 250.

Унітарнае прадпрыемства "Вядзерава" галоўнага ветурача і галоўнага заатэхніка з вышэйшай адукацыяй па 500 рублёў знайшло, а вось трактарыста з заробкам 350 рублей пакуль што не.

Прадпрыемства "Свіціна ВМК" шукае кіроўцу пагрузчыка на заробак 400 рублёў, інжынера па цеплафікацыі з тым жа заробкам і галоўнага энергетыка на 450 рублёў.

Дзяржаўнаму прадпрыемству "ДраздыАгра" патрэбен трактарыст з заробкам 370 рублёў і галоўны бухгалтар з заробкам 400 руб. На льнозаводзе трактарысту за працу прапануюць толькі 300 руб.

ДП"ПалітаддзелецАгра" шукае аператара агламератара палімерных матэрыялаў у вёску Чурылава на 400 руб.

АТП -21 патрабуецца інжынер з вышэйшай адукацыяй (500 руб) і вадзіцелі аўтамабіля "С" (400 руб).

На "Белкатламашы" ўжо паўгода вісіць вакансія галоўнага канструктара, якому гатовыя заплаціць 900 рублёў. Да яго дадаўся менеджар па персаналу з вышэйшай адукацыяй і заробкам 550 руб.

Раённаму аддзяленню МНС па-ранейшаму патрэбны ратавальнік-пажарны з агульнай сярэдняй адукацыяй і заробкам 400 рублёў.

Бешанковіцкаму камунальніку патрэбныя вальшчык леса (але ўжо не за 350, а за 300 руб) і лесаруб (270).

ДРСУ -110 патрэбныя галоўны інжынер (588 рублёў), машыніст бульдозера (270) і вадзіцель пагрузчыка (311 рублёў).

"Біль-Бімба плюс" шукае швеяў з заробкам 280 рублёў. (Раней было 270.)

Аддзел культуры Бешанковіцкага РВК усё шукае хармайстра, метадыста, харэографа на заробак 270 рублёў (на пачатак года было 230 руб).

Белдзяржстрах шукае страхагента і гатовы раскашаліцца на 350 руб.

Бешанковіцкі аддзел дэпартаменту аховы МУС шукае інжынера або настаўніка-фізіка і прапануе яму 400 руб.

Белаграпрамбанк шукае намесніка начальніка разлікова-касавага цэнтра і прапануе яму заробак 514 рублёў 84 капейкі.

ПГУП "ВаяжТрансЛагісцік" шукае вадзіцеля аўтамабіля (лепш міжнародніка) на 310 руб.

Нарэшце РСТ (райпо) традыцыйна шукае прадавачак у магазіны Бешанковічаў, Крупеніна, Будзілава, Сініц і Вярхоўя (350 руб) і тавараведа (340 руб).

Тэлефоны арганізацый, якія прапануюць вакансіі, можна знайсці на сайце http://gsz.gov.by

**М.Васільеў**



## ****

*Калі ноч у адчаі*
*страсае ў блакіт рэшткі сну,*
*сонца твары расквечвае*
*мяккай пяшчотай старанна,*
*я іду на бальшак,*
*сустракаю красуню-вясну,*
*што завітвае ў сад мой*
*прыветлівым сонцам*
*шторанне.*

*Разумею цяпер я*
*няўрымслівасць вечную хмар –*
*іх журбу на нябесных шляхах*
*можна змерыць вякамі.*
*За мяне ж на зямлі*
*чалавека шчаслівей няма,*
*і ўсё тое – вясна,*
*што насустрач*
*ідзе бальшакамі.*

*Да мяне яна крочыць – нібы*
*першы кружыцца снег,*
*залацяцца сады,*
*сэрца плача маё ціхім болем.*
*Калі б гэтай красуні-вясны*
*не было б у мяне,*
*я б даўно белым воблакам стаў*
*з яго вечнай журбою.*

**Г.Станкевіч**

НАШУМЕЛАЯ СПРАВА

## ХТО ТАКІ ЛЕАНІД ПЯНЬКОЎСКІ?..

**Да таго, як Леанід Пянькоўскі 12-га мая быў прызначаны старшынёй Аршанскага райвыканкама, ён 9 гадоў кіраваў Бешанковіцкім раёне. Раён вядомы тым, што яго насельніцтва прыкметна скарачаецца, бюджэт напалову датуецца, а сярэдняя зарплата на $ 150 ніжэй, чым у сярэднім па краіне.**

"Мы ўжо прывыклі да таго, што беларускія чыноўнікі вельмі немедыйныя людзі - яны даюць мала інтэрв'ю (уся ўвага СМІ накіроўваецца на прэзідэнта, а яго падначаленыя выглядаюць статыстамі ў гэтых перадачах), яны не прысутнічаюць у сацыяльных сетках і рэдка даюць інтэрв'ю незалежным рэдакцыям. Але новы старшыня Аршанскага выканкама нават у гэтым плане абышоў сваіх калегаў: ва ўсёй інтэрнэт-прасторы няма нават поўнай біяграфіі Леаніда Пянькоўскага", - пісаў пра іх сайт orsha.eu

Раённая Бешанковіцкая газета на сваім сайце паведамляла пра прыёмы свайго старшыні выканкама і анансавала "гарачыя лініі", і ўсяго некалькі артыкулаў значыць пра тое, што яго ўзнагародзілі званнямі "Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі РБ" і "Чалавек года Віцебшчыны". Пры гэтым, Пянькоўскаму было даручана выступіць з прамовай на 5-ым Усебеларускім народным сходзе, дзе выканкамавец распавядаў пра поспехі Бешанковіцкага раёна.

15-га мая кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта прадставіла новага кіраўніка Аршаншчыны - рэгіёну, які стаў новым пражэктам Лукашэнкі.

"Леанід Пянькоўскі доўгі час узначальваў Бешанковіцкі раён. Гэты раён у ліку лідэраў у Віцебскай вобласці", - сказала Наталля Качанава.

Словы Качанавай выклікаюць пытанні, таму што ў свежым рэйтынгу заробкаў, напрыклад, Бешанковіцкі раён апынуўся на другім месцы знізу - сярэдні заробак складае тут усяго 483,3 рубля, у той час як афіцыйны сярэдні заробак у цэлым па Беларусі складае 771 рубель.

У сакавіку гэтага года ў раёне сярод іншых былі наступныя вакансіі: электрыка з заробкам у 250 рублёў, метадыстаў у цэнтры культуры з заробкам у 240, прадаўцоў з заробкам у 350.

Бюджэт раёна напалову датуецца. Агульная сума даходаў мясцовага бюджэту на 2017 год прагназуецца ў аб'ёме 10,1 млн руб. А з улікам бязвыплатных паступленняў з рэспубліканскага і абласнога бюджэтаў даходы складуць 20,2 млн рублёў, пісала мясцовая газета "Зара".

Насельніцтва раёна прыкметна скарачаецца. Лічбы такія: па выніках перапісу 1999 года ў Бешанковіцкім раёне пражывала 23 674 чалавека, па перапісу 2009-га - ужо 18 516 чалавек. А на пачатак мінулага года - усяго 15 914 чалавек.

Па афіцыйных дадзеных з 2010 па 2015 гг. было закрыта шэсць устаноў адукацыі, яшчэ 10 - рээрганізавана. Мабыць, гаворка ідзе ў асноўным аб школах.

Мясцовае выданне пісала пра тое, што Пянькоўскі мала цікавіўся спортам і культурай, гэтыя сферы мала фінансаваліся пры ім. Так, помнікі культуры ў Бешанковіцкім раёне сёння ў дрэнным стане, а некаторыя за час Пянькоўскага былі знішчаны. Пры Пянькоўскім у раёне з'явіўся свой сацыяльны даўгабуд - басейн, які пачаў будавацца ў 2013 годзе і ўжо праз год будаўніцтва спынілася.

Затое на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года раён прадэманстраваў фантастычную яўку, мясцовая вертыкаль пастаралася. Яўка ў Бешанковіцкім раёне склала 99,2%. Нібыта тут не прагаласавала ўсяго 99 выбаршчыкаў.

Прызначаючы Пянькоўскага на пасаду старшыні Аршанскага райвыканкама, Лукашэнка даручыў яму навесці "жалезны парадак" і бліжэйшым часам падняць раён "з руін і попелу", а заадно "падняць дух народа" спартыўнымі мерапрыемствамі.

Нагадаем, 23-га мая стала вядома аб тым, што Леанідам Пянькоўская, ужо ў якасці старшыні Аршанскага райвыканкама, зацікавіліся сілавікі. Дакладней, стала вядома аб тым, што яны зрабілі гэта без санкцыі Лукашэнкі, што абурыла прэзідэнта.

**"Беларускі партызан"**

НАВІНЫ ФУТБОЛА

## ПЕРШЫ БЛІН — САБАКУ

**У першым туры першынства Віцебскай вобласці па футболе 21-га траўня ФК «Бешанковічы» на сваім полі гуляў з суседзямі з Шуміліна.**

З першых жа хвілін бешановіцкія футбалісты навязалі супернікам сваю гульню і забілі два галы. Першы тайм скончыўся з лікам 2 : 0 на карысць гаспадароў поля. Але запалу ім хапіла толькі на першы тайм.

Пасля перапынку госці апамятаваліся, уняслі карэктывы ў гульню і пачалі ціснуць на вароты бешанкоўцаў. І гэты націск гаспадарам стрымаць не ўдалося. Мабыць, яны выдыхліся, пачалі гуляць з памылкамі і перайшлі на грубую гульню.

Расплата наступіла ў выглядзе двух пенальці, якія госці рэалізавалі беспамылкова. А напрыканцы гульні са штрафнога ўдара забілі і трэці гол. Такая жаданая перамога, якая, здавалася, была ледзьве не ў руках, зноўку выслізнула.

Але, дзеля справядлівасці, трэба адзначыць, што такога дэбютнага матча наша каманда не выдавала ні летась, ні залетась. Пажадаем ёй больш папрацаваць над фізічнай падрыхтоўкай, і перамогі прыйдуць.

**Г.Станкевіч**

ПРАВАВАЯ ДЗЯРЖАВА

# ТРИ ВОПРОСА К ЛУКАШЕНКО

**«Кто дал право к человеку, согласованному к назначению президентом, врываться в дом?» Так отреагировал Лукашенко на действия силовиков в отношении председателя Оршанского райисполкома. А пока председатель Следственного комитета держит ответ перед президентом, белорусы тоже хотели бы кое о чем спросить у Лукашенко.**

Напомним, в понедельник белорусы неожиданно узнали, что человек, «входящий в кадровый реестр президента», по сути, получает неприкосновенность, отменить которую может не закон, а один-единственный человек.

Александр Лукашенко поручил председателю Следственного комитета Ивану Носкевичу лично разобраться с неприятной ситуацией, произошедшей с Леонидом Пеньковским, который недавно возглавил Оршанский райисполком.

— Кто дал право к человеку, согласованному к назначению президентом, врываться в дом? Ведь для того, чтобы правоохранительным органам даже вести какие-то расследования по человеку, входящему в кадровый реестр президента, надо согласие президента. Ворвались, начали что-то уточнять, — возмущался глава государства. — Новый человек пришел работать. Клеймо на нем поставили. Нехороший сигнал.

Не будем судить о правомерности или неправомерности действий силовиков в отношении упомянутого Леонида Пеньковского. Ведь, заметьте, не это возмутило Лукашенко. Его волновал лишь тот факт, что «ворвались и начали что-то уточнять», не получив на то «согласие президента».

Специально пересмотрела «Статус и Полномочия Президента Республики Беларусь». Права, которыми наделяет закон главу государства можно назвать поистине царскими. Там есть многое о назначении и освобождении от должностей судей, членов ЦИК и прочих государственных мужей, включая руководителей республиканских органов государственного управления.

Но вот насчет того, чтобы вмешиваться в проведение расследования в отношении кого бы то ни было и указывать следователям, у кого можно «что-то уточнять», а у кого нет, — ни слова.

А пока председатель Следственного комитета оправдывается в своих действиях перед президентом, белорусы тоже хотели бы задать Лукашенко несколько вопросов.

Кто дал право президенту брать на себя полномочия, которыми народ Беларуси его не наделял?

Кто дал право президенту указывать органам следствия, как проводить расследование?

И, в конце концов, кто дал право президенту ставить себя выше закона?

**Светлана Метёлкина**

НАША ЖЫЦЦЁ

# АДПАЧЫНАК НА ВАДЗЕ

**Па інфармацыі Віцебскага абласнога камітэту прыродных рэсурсаў і аховы наваколля сёлета ў Віцебскай вобласці для масавага адпачынку вызначаны 124 пляжы.**

І калі нашы суседзі шумілінцы маюць 4 месцы адпачынку, сенненцы – 5 месцаў, Чашніцкі раён – 7 месцаў, то найменшую колькасць у вобласці маюць нашы землякі – аж два.

Гэта знакамітыя "Чыстыя пруды" каля раённай бальніцы і возера Паўазер'е блізу вёскі Сокарава. Гэтыя месцы адпачынку абсталяваныя аўтастаянкамі, прыбіральнямі і кантэйнерамі для збору смецця.

Ні на возеры Астроўна, ні на возеры Саро, ні на іншых шматлікіх азёрах і рэчках Бешанковіцкага раёна такіх месцаў адпачынку няма.

Нагадаем, што летась у нашым раёне таксама адзначаліся тыя ж два месцы.

**А.Тутэйшы**

АКТУАЛЬНАЕ ПЫТАННЕ

# ВІДЭАЗВАРОТ ПЯЦІКЛАСНІКА

**Выступ вучня мінскай школы Мікіты Талата ў рамках праекта «Тэдзі — Трыбуна для меркаванняў дзяцей і моладзі», які сумесна рэалізуюць рэдакцыя газеты «Аргументы і факты ў Беларусі», РГА «Беларуская Асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА» і Прадстаўніцтва Дзіцячага Фонду ААН (ЮНІСЕФ) у Беларусі.**

"Прывітанне. Мяне завуць Мікіта Талатай. Я вучань 5-га класа сталічнай школы № 66. Я вельмі хацеў паразважаць над тым, чаму беларускія школьнікі не размаўляюць на беларускай мове. Але разважаць няма часу. Пачну з сябе. Пачну зараз.

Нядаўна я правёў невялікі эксперымент. Я падыходзіў да сваіх аднакласнікаў і задаваў ім пытанне: „Ці ведаеш ты, што азначае слова" абібок», «хмарачос», «шпацыр» і г.д. Большасць з іх проста паціскала плячыма, хтосьці хіхікаў, хтосьці перапытваў. 3 сямі чалавек на пытанне адказаць ніхто не змог. І я задумаўся: чаму так адбываецца? Мы жывем у краіне, мову якой успрымаем як замежную. Я таксама размаўляю на рускай, але мяне вельмі хвалюе гэтая праблема.

Так, згодна з заканадаўствам, у нас дзве дзяржаўныя мовы. І тым не менш наша краіна называецца Беларусь.

Мы часта крыўдзімся на СМІ суседніх краін, калі яны робяць памылкі ў назве нашай рэспублікі. Але самі пры гэтым не абцяжарваем сябе тым, каб вывучыць хаця б некалькі беларускіх слоў, чытаць кнігі беларускіх аўтараў.

Я склаў топ-10 беларускіх словаў, якія могуць у корані памяняць ваша ўяўленне аб роднай мове.

Многія з вас, напэўна, ведаюць песню Rihanna «Diamonds». Але толькі некаторыя могуць перавесці назву гэтай кампазіцыі на беларускую — «Дыямант». Тое ж самае са словам colour — «колер», парасейску — цвет. Гэта значыць, вывучаючы беларускую, мы дапамагаем сабе вывучаць і англійскую? Забаўна, ці не праўда?

Знічка — гэта падаючая зорка. Зорка, якая «знікае», «исчезает». Характэрна, што ў беларускім ёсць асобнае слова і для «звезды», якая свеціць, — «зорка».

Або вось «мечта» — «мара». Ну, а «мечтать», адпаведна, «марыць». Працягніце лагічны шэраг. Мечтатель? Марыцель? Не. Летуценнік. Не чакалі пасля «мары»? Праўда, вельмі мілагучнае слова?

Або да прыкладу «Чарадзей» — той, хто наводзіць чары, чараўнік.

«Кавярня» і «кнігарня», на мой погляд, гучаць значна цікавей, чым "кофейня»і «книжный магазин». Сюды ж я магу аднесці «ліхтар» і «парасон», адпаведна «фонарь» і «зонт».

Так ці ёсць сэнс у развіцці беларускай мовы, калі на дзяржаўным узроўні яна практычна не падтрымліваецца?

Сэнс ёсць заўсёды. Я — беларус! Я нарадзіўся ў гэтай краіне, я гадаваўся ў гэтай культуры. Я не хачу губляць сувязь з пакаленнямі, якія пакінулі вялікі культурны пласт. Для сябе я знайшоў спосаб рашэння гэтай праблемы. Ён вельмі просты, і магчыма, неэфектыўны. Але, мабыць, варта паспрабаваць."

**Наша Ніва**

ЗДАРЭННІ

# КРАЛІ АЎТАМАБІЛЬНЫЯ КАЎПАКІ

**Супрацоўнікамі ўпраўлення крымінальнага вышуку абласнога УУС ўстаноўлена дачыненне дваіх непрацуючых жыхароў Віцебска 1995 года нараджэння да здзяйснення шэрагу крадзяжоў дэкаратыўных каўпакоў з аўтамашын у Віцебскай вобласці.**

У момант затрымання злачыннага дуэта ў іх аўтамашыне знаходзілася больш за 10 камплектаў аўтамабільных каўпакоў. Дзейнічалі маладыя людзі, як правіла, у цёмны час сутак.

Так, у ноч на 21-га красавіка зніклі 4 дэкаратыўных каўпакі, коштам 100 рублёў, з аўтамабіля «Опель-Астра» у Бешанковічах, а ў ноч на 26-га красавіка 3 каўпакі былі зняты з колаў "Рэно-Эйспейс» і 4 з «Фольксваген-Транспарцёр» у Воршы. Падобныя факты ўстаноўлены ў Гарадоцкім і Шумілінскім раёнах.

5-га траўня на дадзеных фактах распачатыя крымінальныя справы па ч. 2 арт. 205 КК.

Маладыя людзі раней не траплялі ў поле зроку міліцыі. Крадзеныя аўтамабільныя аксэсуары рэалізоўвалі праз інтэрнэт і знаёмых.

**Аддзяленне інфармацыі і грамадскіх сувязей УУС Віцебскага аблвыканкама**

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

# КАЛІ Ж ПАЧЫНАЦЬ УРОКІ?

**16-га траўня ў раённых упраўленьнях адукацыі Менску прайшлі нарады, на якіх кіраўніцтву школ і гімназій рэкамэндавалі пачынаць урокі не раней за 9 гадзіну раніцы. У той жа час Міністэрства адукацыі адмаўляе, што давала такія рэкамэндацыі — школы самі павінны вызначыцца, калі пачынаць заняткі.**

Завуч адной зь менскіх гімназій паведаміла Свабодзе:

«На нарадзе ва Ўпраўленьні адукацыі адміністрацыі Фрунзенскагараёнудырэктараў і завучаў праінфармавалі, што рашэньне па пераносе заняткаў у школах і гімназіях прынята. Заняткі ў школах, якія працуюць уадну зьмену, будуць пачынацца а 9-й раніцы, а ў школах, дзе дзьве зьмены — у 8:30. Пісьмовага распараджэньня яшчэ няма, электронны ліст гімназія не атрымлівала, але вусна нас запэўнілі, што рашэньне прынятае».

Прэсавы сакратар Міністэрства адукацыі Людміла Высоцкая сказала, што ніякіх лістоў ніхто не рассылаў, рашэньня Міністэрства адукацыі няма, праводзіцца вусны маніторынг.

«Гэта ня хуткі шлях, і наскокам такія рашэньні не прымаюцца. Ёсьць даручэньне кіраўніка дзяржавы, пытаньне разглядаецца. Адміністрацыі школ маюць права самі вызначаць, у колькі пачнецца навучальны працэс. Для школ, якія працуюць у адну зьмену, цалкаммагчымазрабіць пачатак заняткаў а 9-й раніцы. Але гэта не азначае, што бацькам, якія (умоўна) працуюць ад 8-й раніцы, ня будзе куды падзець дзіця. Школы будуць працаваць ад самай раніцы, дзяцей будуць прымаць, яны будуць пад наглядам. Калі школа працуе ў дзьве зьмены, тут больш складана, хутчэй за ўсё, урокі будуць пачынацца ў 8:30. А ў сельскай мясцовасьці, дзе школы малакамплектныя, куды прывозяць дзетак з навакольных вёсак, безумоўна, трэба пачынаць урокі не раней за дзявятую раніцы.

Дый увогуле, паводле санітарных правілаў і нормаў („Патрабаваньні для ўстановаў агульнай сярэдняй адукацыі", зацьверджаныя Міністэрствам адукацыі 27 сьнежня 2012 году, № 206) заняткі ў школах павінны пачынацца а 9-й гадзіне.

Але, паўтаруся, школы самі будуць вырашаць, як ім працаваць, а не Міністэрства адукацыі», — запэўніла Свабоду прэс-сакратар Людміла Высоцкая.

Аляксандар Лукашэнка даручыў перагледзець графік працы агульнаадукацыйных школ. «Нам трэба мяняць графік работы школ. Раней за дзявятую гадзіну ўрокі пачынаць ня трэба», — сказаў кіраўнік дзяржавы 12 траўня.

**Радыё Свабода**

# АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

НАША ЎЛАДА

# СТАМІЎСЯ АД УЛАДЫ

**Цяпер ужо мала хто памятае, што 10 сьнежня 2013 году Лукашэнка правёў вялікую нараду па пытаньнях будаўнічай галіны, якая праходзіла ў Палацы Незалежнасьці і працягвалася амаль 6 гадзін. На яе былі запрошана больш за 250 удзельнікаў, у тым ліку вышэйшыя службовыя асобы краіны, чальцы ўраду, кіраўнікі мясцовай вэртыкалі ўлады.**

Тады кіраўнік Беларусі назваў гэта мерапрыемства знакавай падзеяй і паабяцаў, што падобныя нарады стануць рэгулярнымі, на іх будуць абмяркоўвацца найбольш надзённыя і значныя для людзей пытаньні развіцьця эканомікі і грамадства на сярэднетэрміновую пэрспэктыву. Лукашэнка адзначыў, што гэты форум бачыцца яму свайго роду аналягам пленума Цэнтральнага Камітэту Кампартыі ў савецкія часы, калі з усіх рэгіёнаў зьбіраліся кіраўнічыя кадры і адкрыта абмяркоўвалі, сумесна вырашалі найважнейшыя пытаньні жыцьця грамадзтва.

Ён заявіў: «Такога фармату і шырокага складу ўдзельнікаў патрабуюць як актуальнасьць тэматыкі, так і неабходнасьць усебаковага абмеркаваньня рэальнай сытуацыі ў вельмі важных сфэрах дзейнасьці, каб дайсьці да кожнага рэгіёну, кожнай арганізацыі... Неабходна часьцей, як мінімум раз на паўгода, зьбірацца ў такім складзе, каб на сыстэмнай аснове даваць сыгналы ўсяму грамадзтву пра праблемы, якія ўзьнікаюць, і шляхі іх вырашэньня... Таму мы дамовіліся, што ў пэрспэктыве такія нарады стануць нормай».

Лукашэнка анансаваў, што дзьве наступныя нарады будуць прысьвечаныя праблемам ЖКГ і разьвіцьцю аграпрамысловага комплексу.

Хутка будзе чатыры гады, як былі абнародаваныя тыя пляны. Але ніякіх падобных нарадаў у выглядзе пленумаў ЦК больш не адбылося.

Пра гэта можна было б забыцца, калі б ня новыя факты нязьдзейсьненых плянаў і абяцаньняў.

Таксама было абяцаньне правесьці вялікую нараду па пытаньні адукацыі ў краіне.

На сакавік была заплянаваная нарада па пытаньнях рэфармаваньня дзяржаўнай уласнасьці. Гэтага патрабуе МВФ.

Старшыня Цэнтравыбаркаму Ярмошына некалькі разоў паведамляла, што ў сакавіку павінна была прайсьці нарада па рэфармаваньні выбарчага заканадаўства. На гэтым настойваюць АБСЭ і Эўразьвяз.

Але ўсе гэтыя пляны і намеры падвісьлі.

9 сакавіка Лукашэнка даручыў да 1 красавіка дапрацаваць дэкрэт № 3 аб дармаедах і прадставіць яму на подпіс. Але лёс дэкрэту невядомы.

14 сакавіка Лукашэнка заявіў, што трэба заслухаць справаздачу ўраду пра тэндэнцыі і сытуацыю ў эканоміцы па выніках першага кварталу. Мерапрыемства плянавалася правесьці ў пашыраным складзе, зьбіраліся запрасіць больш за 300 чалавек. Прайшло больш за месяц, першы квартал скончыўся, і 21 красавіка, выступаючы з пасланьнем да беларускага народу і Нацыянальнага сходу, Лукашэнка чарговым разам паабяцаў: «Больш дэталёва сытуацыю ў эканоміцы краіны мы бліжэйшым часам разгледзім на пасяджэньні ўраду, а дакладней, пры справаздачы ўраду перад прэзыдэнтам. Гэта будзе бліжэйшым часам з удзелам нашых дэпутатаў і сэнатараў, Нацыянальнага банку, усёй вэртыкалі ўлады і кіраўнікоў найважнейшых арганізацый».

Ужо канец траўня, хутка скончыцца другі квартал, а нарады ўсё няма.

Такім чынам, мы маем цікавую і вельмі адметную сытуацыю. Да таго, што палітычнае кіраўніцтва ня ў стане вырашыць ніводнае эканамічнае пытаньне, мы ўжо неяк прызвычаіліся. Ніводзін праект па мадэрнізацыі не завяршыўся посьпехам, то бок ня стаў акупным.

Але цяпер мы бачым, што нават правядзеньне чыста бюракратычнага мерапрыемства становіцца вялікай праблемай. Бо ў кіраўніцтва няма адзінства і ідэй, яно проста ня здольнае да ўцямных рашэньняў. Гэта прыкмета паралічу дзяржапарату. Адзінае, што ён можа, — гэта прыдушыць апазыцыю і вулічныя пратэсты.

Напрошваецца адна гістарычная аналёгія. У апошнія гады свайго жыцьця хворы і стары Ёсіф Сталін рэдка прыяжджаў у Крэмль. Ён сядзеў на дачы ў Кунцаве і час ад часу прымаў сваё бліжэйшае атачэньне, прычым позна вечарам у форме застольляў. Паколькі ўся сыстэма дзяржаўнага кіраваньня была завязаная на адным чалавеку, то насьпелыя рашэньні па пытаньнях палітычнага, эканамічнага і грамадзкага жыцьця не прымаліся. 13 гадоў не праходзілі зьезды Кампартыі, гадамі не праводзіліся пленумы ЦК. Сталін стаміўся ад працы і цешыўся сваім статусам паўбога.

І брэжнеўскі застой надышоў тады, калі першая асоба апынулася ў стане фізычнай і псыхалягічнай неадэкватнасьці.

У палітычнай сыстэме, дзе ўсе больш-менш важныя рашэньні прымаюцца на вяршыні адміністрацыйнай піраміды, вельмі шмат залежыць ад першай асобы. Любая замінка гэтай асобы паралізуе працу ўсяго дзяржаўнага апарату. І справа тут ня толькі ў пэўнай разгубленасьці і адсутнасьці новых ідэй, няздольнасьці рэагаваць на новыя выклікі. Чалавек за 23 гады ва ўладзе можа проста стаміцца. Хочацца адпачыць. Дый хакейную трэніроўку нельга ж прапускаць.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# «ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ» БЕЗ БЕЛАРУСАЎ

**Поспех рэформаў у першую чаргу залежыць ад здольнасці рэфарматараў ствараць кааліцыі ў сваю падтрымку. Прапануем 3001-е абмеркаванне праграмы «Вольная Беларусь», падрыхтаванай калектывам аўтараў на чале з Зянонам Пазьняком.**

**Невясёлая сацыялогія**

У першым абзацы дакумента палітычны рэжым у Беларусі названы недэмакратычным і аўтарытарным. Адзначаецца, што ён праводзіць палітыку прамаскоўскай унутранай акупацыі і русіфікацыі. Абмяркоўваць тут, на першы погляд, няма чаго. Палітыка кожнага аўтарытарнага і недэмакратычнага рэжыму можа разглядацца як акупацыйная. Гэта падставовая паліталагічная ісціна.

Звернемся па каментар да амерыканскага эканаміста Мансура Олсана, які разглядаў сучасныя дзяржавы як вынік супрацьстаяння паміж бандытамі-гастралёрамі і мясцовымі стацыянарнымі бандытамі. Калі першыя абіраюць насельніцтва па максімуму, дык другія «аптымізуюць забраныя ў насельніцтва даходы, пачынаюць зберагаць іх і інвеставаць», што стварае ўмовы для трансфармацыі бандытаў у кіраўнікоў-аўтакратаў.

Такім чынам, для правядзення палітыкі ўнутранай акупацыі ўладзе не абавязкова быць прамаскоўскай. Свая, родная ўлада з гэтай задачай здольная выдатна спраўляцца. Яна ж не па ўказанні з Масквы, а дзеля вырашэння ўласных задач зацікаўленая ў русіфікацыі.

Звернемся да табліцы, складзенай на падставе апытанняў НІСЭПД. У год першых прэзідэнцкіх выбараў у паўсядзённых зносінах карысталіся беларускай мовай 16%, праз тры гады — 6%, а яшчэ праз два — толькі 3%. Адкуль такая дынаміка? Ніякая палітыка русіфікацыі не магла быць яе прычынай, тым больш, што колькасць рускамоўных за гэты ж час не ўзрасла, а скарацілася!

Парадокс тлумачыцца проста. Перабудова перавяла насельніцтва былых рэспублік СССР са стану палітычнай апатыі ў стан палітычнага ўзбуджэння, складовай часткай якога стала нацыянальная (этнічная) мабілізацыя. Але ўжо да другой палове 1990-х гадоў яе рэсурс быў вычарпаны. Звярніце ўвагу на дынаміку варыянтаў адказаў: «руская і беларуская» і «змяшаная». У 1994 годзе прызнацца нават самому сабе ў выкарыстанні трасянкі рэспандэнту было няпроста. Але ў 1997 годзе ўсё ўстала на свае месцы.

**ЯКОЙ МОВАЙ, У АСНОЎНЫМ, ВЫ КАРЫСТАЕЦЕСЯ Ў ПАЎСЯДЗЁННЫХ ЗНОСІНАХ?, %**

| Мова зносін | 11'94 | 11'97 | 03'99 | 06'15 |
|---|---|---|---|---|
| Беларуская | 16 | 6 | 3 | 3 |
| Руская | 68 | 41 | 42 | 69 |
| Руская і беларуская | 7 | 20 | 27 | 12 |
| Змяшаная | 6 | 35 | 27 | 16 |
| Іншая | 2 | 1 | 1 | – |

У год першых прэзідэнцкіх выбараў будучы адзіны палітык (АП) дзейнічаў рацыянальна, калі зрабіў двухмоўе часткай сваёй выбарчай праграмы. У маі 1995 года на першым канстытуцыйным рэферэндуме за наданне рускай мове роўнага статусу з беларускай прагаласавала 83,2% ад колькасці тых, хто прыняў удзел у рэферэндуме. Неабходна падкрэсліць, што падлік галасоў забяспечвала даярмошынская ЦВК. Пра яе бесстароннасць сведчыць, у прыватнасці, яўка ў 64,8%. Праз паўтара года яўка падскочыла на 20 пунктаў — да звыклых па цяперашніх мерках 84,2%! Але гэта ўжо іншая гісторыя.

**Нібы вавёрка ў коле**

Беларускае грамадства, на думку аўтараў дакладу, засела ў XX стагоддзі. У гэтым галоўны вынік антынароднага рэжыму. Прыметнікі «аўтарытарны» і «антыдэмакратычны» нязгоды ў мяне не выклікаюць. Але чаму рэжым антынародны?

У 1994 годзе на першых і апошніх свабодных прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі АП у другім туры падтрымала 80,3% выбаршчыкаў ад колькасці тых, хто прагаласаваў (56% ад спісачнага складу), яго нага апанента, прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча, — 14,2%. Паводле ўсялякіх мерак — больш чым пераканаўчая перамога!

Аднак звернемся да вынікаў першага тура. Кандыдаты ад нацыянальна-дэмакратычных сіл (Пазьняк, Шушкевіч) атрымалі на дваіх 22,7%, а іх ідэйныя апаненты з прасавецкага лагеру (Дубко, Кебіч, Лукашэнка, Новікаў) — 72,4% пры яўцы 79%. Калькулятар падказвае, што падтрымка другіх апынулася ў 3,2 разы вышэйшай. Больш пераканаўчай ілюстрацыі электаральнай структуры беларускага грамадства, мабыць, і не знайсці.




Першыя і ўсе наступныя прэзідэнцкія выбары зафіксавалі галоўную характарыстыку беларускага грамадства — раскол. Для разумення яго прыроды нам спатрэбіцца ўяўленне пра два тыпы ўзнаўлення культуры: статычны і інтэнсіўны.

Першы ўласцівы традыцыйнай цывілізацыі. Ён накіраваны на падтрыманне ўсіх сістэм грамадства ў нязменным стане ў адпаведнасці з уяўленнямі, што ідэалізуюць мінулае. Другі пануе ў ліберальнай цывілізацыі. Ён характарызуецца імкненнем пастаянна павышаць сацыяльную эфектыўнасць.

Сучасная Беларусь, безумоўна, выйшла за рамкі традыцыйнай цывілізацыі, але перайсці мяжу ліберальнай цывілізацыі так і не здолела. Яна затрымалася ў прамежкавым стане, які спалучае элементы абедзвюх цывілізацый.

«Раскол, — тлумачыць гісторык Аляксандр Ахіезер, — паталагічнастан грамадства, што характарызуецца супярэчнасцю паміж субкультурамі адной культуры». У нашым выпадку, гэта субкультуры, якія склаліся пад уплывам традыцыйнай і ліберальнай цывілізацый.

Расколатае грамадства — нібы вавёрка ў коле — бяжыць па крузе, бо актывізацыя каштоўнасцяў адной часткі грамадства прыводзіць у дзеянне сілы іншай часткі грамадства, якая адмаўляе гэтыя каштоўнасці. Як тут ні прыгадаць ліберальную хвалю, спароджаную перабудовай, а ўслед за ёй актывізацыю прадстаўнікоў сацыяльнай перыферыі. Іх электаральная актыўнасць і забяспечыла першую перамогу будучага пентачэмпіёну.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ОКОЛО ШКОЛЫ

# А КОЛЯ ВДРУГ ПЕРЕДУМАЛ…

**Коля не поддержал папу в его стремлении перенести начало уроков на 9 утра.**

Чтобы окончательно не сойти с ума, давайте восстановим события по порядку.

21 апреля Лукашенко заявил, что его сын Николай не высыпается на уроках и хорошо бы начинать занятия в 9 утра. «Дать ребенку час утром поспать», – распорядился руководитель страны и потребовал «не смотреть, что родителям сложно в школу отправить ребенка, потому что они раньше идут на работу».

Уже на следующий день, 22 апреля, журналисты заловили министра образования и прямо поинтересовались, будут ли менять расписание в школах, на что тот ответил: «Давайте не будем пока будоражить родительскую общественность». И рассказал примерно все то, о чем родители и СМИ говорили весь следующий месяц: о позднем окончании второй смены, о подвозах детей к школам и графиках работы родителей.

Но президент на этом не успокоился, и уже 12 мая жестко потребовал: «Надо нам менять график работы школ. Раньше девяти часов уроки начинать не надо».

Пока родители и учителя негодовали, указывая, что в системе образования есть и более насущные проблемы, нежели невысыпающийся Коля, Министерство потихоньку начало высылать письма с требованием начинать занятия в 9 утра или дать, как минимум, серьезное обоснование, почему это невозможно.

И тут случилось самое смешное. 16 мая выяснилось, что та самая школа в Острошицком городке, где на первом уроке «все спят» и Коля «прикорнул», ничего в своем графике менять не собирается. Там вообще были искренне удивлены вопросом о том, готовы ли они перенести на час уроки: «У нас же дети из Бродка ездят, на 7:20».

Но Лукашенко не сдавался и продолжал настаивать. Скоро белорусы узнали, что согласно санитарным нормам и правилам, оптимальное время для начала уроков в школе — 9 утра. (Интересно, а где можно получить компенсацию за подорванное здоровье тем, кто все школьные годы проучился с 8-ми или «недосып» зачтется в трудовой стаж при выходе на пенсию?)

«Как вы думаете, кто победит? Коля или родители всей страны?»

А пока школы придумывали лазейки, как «свинтить» от такого настойчивого предложения, Минобразования 26 мая официально подтвердило: уроки начинать с 9 утра! Лукашенко лично доложили, что его распоряжение выполнено и более 80% школ будут начинать занятия в новом учебном году с 9 утра.

В общем, школа взяла равнение на Колю. Но тут оказалось, что Коля передумал. Вернее, даже не передумал, а в принципе и не хотел ничего менять в своем школьном графике.

Рассказывая сегодня про реакцию сына на инициативу о переносе начала уроков, Лукашенко поведал:

— Утром одно мнение я уже получил: ты не то делаешь, не надо в 9 часов. Как родители детей повезут? Это же не сын президента едет, — процитировал глава государства слова своего сына, посещая сш №61.

Вот так: школы «ператрахнули», детей напрягли, родителей заткнули, за один месяц переписали все правила и нормы. И все ради одного мальчика, которого папа, оказывается, не так понял. Ну разве не анекдот?

И можно было бы посмеяться, если бы героями этого анекдота не оказались все мы.

**Светлана Метёлкина**
**gazetaby.com**

НАВАЦЫЯ

# БЕЛОРУСЫ ХОТЯТ РЕФОРМ…

**Почти 79% граждан Беларуси — за реформы. Но глава государства держится за анахроничную экономическую модель, опасаясь политических рисков ее трансформации, а Лукашенко переводит стрелки на контроль за ценами…**

Александр Лукашенко похвалил инициативу Федерации профсоюзов Беларуси (ФПБ) организовать народный контроль за ценами на торговых объектах. Независимые экономисты считают, что это популизм. Нужно развивать рынок, конкуренцию, а не (как любили некогда выражаться большевики) бить по хвостам.

Причем сегодня, похоже, даже рядовая масса настроена по отношению к экономическим реформам прогрессивнее, чем руководство Беларуси. В этом плане показательны результаты свежего исследования Белорусской аналитической мастерской (БАМ, Варшава), которой руководит известный социолог Андрей Вардомацкий. 78,9% белорусов ответили «да» на вопрос, нужны ли нашей стране экономические реформы.

**У нас контролеров и так до черта**

«Слышал, что вы хотите организовать народный контроль за ценами в магазинах, — заметил Лукашенко 19 мая на встрече с председателем ФПБ Михаилом Ордой. — Все в отчетах статистики и правильно, и хорошо по методикам, но в магазинах по основным товарам, основным продуктам питания ситуация может быть другая. Какая она — кто, как не профсоюзы, это лучше всего знают».

Эта сцена оставила впечатление хорошо продуманного и разыгранного перед широкой публикой спектакля.

Независимые обозреватели, оппозиция критикуют ФПБ за полную лояльность, подыгрывание властям. Официозные профсоюзы сидели как мышь под метлой, когда в феврале — марте по всей стране проходили вспыхнувшие именно на почве социального неблагополучия протесты так называемых дармоедов.

А теперь вот и глава государства, и ФПБ демонстрируют заботу о том, чтобы содержимое потребительской корзины не слишком разоряло простого человека.

«Если не растут доходы, то не должны расти и цены. А что мы видим? Многие ведомства поднимают их на глазах», — рассуждает Орда. Теперь в ФПБ создана рабочая группа по мониторингу цен на социально значимые товары и услуги.

Да, но белорусская экономика и так страдает от засилья контролеров. Даже Лукашенко время от времени требует, чтобы проверок стало меньше, чтобы предпринимателей не так дергали.

А тут получается, что армия контролеров лишь вырастет. Причем полномочия и компетентность рекрутируемых профсоюзами проверяльщиков под вопросом. Все это слишком уж смахивает на большевистскую борьбу со спекулянтами.

**Инфляцию может спровоцировать именно «забота о народе»**

Правда, в последние несколько лет правительству и Национальному банку удалось сбить инфляцию. После сумасшедшего 2011 года, когда цены подскочили на 108,7%, их индекс последовательно снижался: 2012 год — 21,8%, 2013 — 16,5%, 2014 — 16,2%, 2015 — 12%, 2016 — 10,6%. За январь — апрель нынешнего года по сравнению с показателем за декабрь потребительские цены выросли на 2,4%.

Так что есть все шансы уложиться в годовой прогноз инфляции — 9%. Если — внимание! — экономику не начнут накачивать пустыми деньгами, исполняя указание Лукашенко довести среднюю зарплату в нынешнем году до тысячи рублей.

Иначе говоря, угрозу чересчур стремительного роста цен несет в себе именно волюнтаристская задача форсированного увеличения зарплат. Напомню: гиперинфляционный взрыв 2011 года последовал именно после того, как к президентским выборам-2010 среднюю зарплату взвинтили до 500 долларов в эквиваленте.

Лукашенко, памятуя печальный опыт, ныне твердит, что повышать заработки следует за счет роста производительности труда.

Но давайте прикинем. За март средняя зарплата в Беларуси составила только 770,6 рубля. Поднять ее до конца года еще на 230 рублей за счет скачка производительности (выбрасывать людей с предприятий Лукашенко запрещает), тем более в условиях затяжной рецессии (только в последние месяцы фиксируется слабое оживление экономики: 0,5% роста ВВП за январь — апрель), просто-напросто невозможно. Значит, снова велик риск наступить на те же грабли.

**Массу достала безнадега**

Прошли времена, когда изрядная часть населения по-детски радовалась хрустящим свежеотпечатанным купюрам в кошельках накануне очередной избирательной кампании. Электорат, похоже, уловил: это у нас не к добру, потом жди обвала.

Действительно, уже дважды за годы своего правления Лукашенко давал белорусам по 500 долларов среднего заработка в эквиваленте, и оба раза после этого экономика мстила. Следовали обвал курса национальной валюты, скачок инфляции, а уровень средней зарплаты снова падал ниже сакральной черты.

Экономисты подчеркивают, что виной — старая экономическая модель, которая просто не может обеспечить высоких темпов роста и на этой базе — натурального повышения благосостояния.

Но поскольку на самом верху политической воли к реформам очевидно недостает, Лукашенко раз за разом возвращается к идеи фиксу административного удержания цен при административном же (через давление на вертикаль, директорат) подъеме зарплат.

В частности, выступая 21 апреля с ежегодным посланием, президент, раскритиковав министра торговли за ставку на конкуренцию как регулятор цен, заявил: «И никакие реформаторы и МВФ вам не указ. Контролируйте ценообразование… Не слушайте никого, кто будет убеждать вас в необходимости либерализации».

Между тем среди населения ныне, как видим, силен запрос именно на экономические реформы. Здесь, правда, следует отметить, что саму суть реформ масса понимает неоднозначно.

Например, согласно тому же опросу, проведенному БАМ в период с 28 марта по 13 апреля по всей Беларуси (в нем приняли участие 1063 человека по репрезентативной выборке), из тех, кто выступает за реформы, 57,4% считают, что суть реформирования должна состоять в уменьшении роли государства в экономике, а 31,1%, напротив, полагают, что государство должно увеличить свою роль в экономике.

Это означает, что массу уже достала безнадега. Это значит, что публику не греют спектакли с фальшивой заботой о народе.

**Александр Класковский**
**БЕЛАПАН**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 30.05.2017 у 16.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.